## УВАГА! Новы расклад руху гарадскога транспарта


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе.
Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 52 (81). Слонім. 24 — 30 снежня 1998 г. | Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік | Кошт свабодны


ФОТАРЭПАРТАЖ

## Спяшаемся...



**Сёння спяшаемся ўсюды паспець, нешта таннае купіць, лішняе прадаць. Яно і зразумела: цэны растуць, а зарплата памяншаецца. Гэта відаць і па гандлю на слонімскім рынку, дзе пакупная магчымасць насельніцтва змяншаецца.**

**Але нашы людзі не адчайваюцца, ім не прывыкаць, яны ўсё сцерпяць. На батон з хлебам і малако грошай пакуль хапае, значыць будзем жыць. Галоўнае, як кажуць пенсіянеры, каб не было вайны. Але чаго ім, старым, баяцца нейкай вайны. Ды і пра што размова? Калі мы можам сёння жыць значна лепш. І ніколі не думаць ні пра войны, ні пра вялікія цэны і чэргі ў магазінах. Таму мы спяшаемся жыць. А раптам заўтра і гэтага не будзе. Нехта нешта прыдбаў, вось і добра. Адстаялі ў чарзе па яйкі і масла, глядзіш, і халадзільнік папоўніўся харчамі. Чым не рамантыка? Ды й пагаварыць у чэргах ёсць з кім пра жыццё-быццё. Было ж нешта падобнае гадоў дзесяць-пятнаццаць назад, калі ў чэргах вырасла цэлае пакаленне. І вось зноў заганяюць нас туды.**

**Міхась АКУЛКА, Мікалай СУПРУН (фота)**



СУДЕБНЫЙ ОЧЕРК

## ПАДЕНИЕ

В суде Слонима рассматривалось гражданское дело о лишении родительских прав жителей деревни Окунинова Раисы Мурашовой и Анатолия Хоменко.

Перед тем, как начать разбирательство по существу дела, председательствующий суда обратился к Мурашовой.

— Раиса Геннадьевна, почему не явились на первое заседание суда?

— Не во что было обуться?..

— Почему своего супруга Хоменко оставили сегодня дома?

Мурашова промолчала.

Но более всего присутствующих в зале ошарашил ответ Мурашовой на вопрос:

—Где трое ваших детей?

Потупив взор, 36-летняя горе-мать призналась:

— Не знаю.

Хотя, как выяснилось, уже более двух месяцев назад ее четырехлетняя Марта определена в Гродненский дом ребенка, семилетний Иван и девятилетний Олег учатся в Новогрудской школе-интернате.

— Как же она будет знать, где ее дети, — с упреком в адрес Мурашовой заявила председатель службы опеки, — если малолетнюю Марту подобрали в стоге соломы? Мать в алкогольном опьянении мертвецки спала. Девочка, продрогшая и обессиленная, плакала. Мы отвезли ее в больницу. Там она находилась более трех недель. Когда девочка поправилась, ее определили в детский дом, где Марта находится по сей день.

Чем дальше продолжалось слушание дела, тем больше обнародовалось фактов, шокировавших здравого человека, издевательств, которым подвергались дети от так называемых родителей.

Мурашова и Хоменко девять лет живут вместе. В браке не состоят. Но имеют троих общих детей. Четвертая, Лена — дочь Мурашовой — учится в девятом классе школы в деревне Партизановка.

*(Продолжение на 2 стр.)*

НАВІНЫ

## Кадет — это звание на всю жизнь

**19 декабря впервые в истории Слонима проходило торжественное посвящение в кадеты учеников военно-патриотических классов средней школы №9.**

Впереди у ребят — напряженные занятия, школьные выпускные экзамены, приравненные к вступительным в Военную академию Республики Беларусь.

**Андрей ЧЕРНЕНКО**

## Будзем з ёлкамі

**23 снежня ў Слоніме пачнецца продаж навагодніх ёлак.**

У горадзе будуць дзейнічаць тры пункты продажу ёлак: на тэрыторыі Парэцкага лясніцтва ў Лабазоўцы, Альбярцінскага — у раёне Альбярцін і лягсаса па вуліцы Касманаўтаў.

Цана ёлак будзе залежаць ад іх велічыні. Так дрэўца вышынёй да 2 метраў будзе каштаваць 120 тысяч рублёў, ад 2 да 3 метраў — 145 тысяч. Ёлка вышынёй за 3 метры абыдзецца чалавеку ў 190 тысяч рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



ЦИТАТА НОМЕРА

## Огневые участки исполкома

"Начат ремонт Барановичской улицы благодаря тому, что об этом писала "Газета Слонімская" и другие товарищи тоже... Создание кадрового реестра в исполкоме позволило укрепить огневые участки управленческой и хозяйственной деятельности компетентными, зрелыми людьми, умеющими работать в современных условиях".

***Из выступления председателя горисполкома Олега Лактюшина на сессии горсовета***

## У чаканні Хрыста

**Дзень нараджэння Хрыста святкуюць ва ўсім свеце. Гэтая радасць, якую абвясціў у Бэтлееме Анёл пастухам, на працягу дваццаці стагоддзяў жыве ў сэрцах тых, хто верыць у Хрыста.**

У гэты дзень кожная сям'я збярэцца за святочным сталом. І каб ніхто не адчуў сябе пакінутым, не застаўся адзін на вуліцы, запрасіце адзінокіх і нямоглых людзей у свой дом да каляднага стала.

У гэты вечар на вашых сталах не павінна быць алкаголю. Таксама пажадана выключыць тэлевізар і радыё. Глыбокае ўсведамленне і перажыванне гэтага свята, з'яднае сям'ю і пакіне ў сэрцы кожнага глыбокія ўспаміны.

Жадаю ўсім вернікам і чытачам "Газеты Слонімскай", каб у вашых дамах, сем'ях і ў сэрцах панаваў Божы спакой, радасць і сапраўднае шчасце!

**айцец Вітольд Жэльветра, ксёндз-дэкан касцёла Св. Андрэя**

### Расклад набажэнстваў, прысвечаных дню Нараджэння Хрыстова

**Касцёл св.Андрэя (плошча Л.Сапегі)**

*Урачыстае калядная набажэнства*

24 снежня 1998 года — 22.00.
25 снежня 1998 года — 11.00 і 19.00.

**Касцёл Маці Божай (вул.Першамайская)**

24 снежня 1998 года — 24.00.
25 снежня 1998 года — 9.00 і 17.00.

ЗДАРЭННІ

## Вакзал зноў "мініравалі"

**У панядзелак, 21 снежня, каля дзевяці гадзін вечара міліцыя зноў ачапіла слонімскі вакзал.**

Прычынай гэтаму стаў тэлефонны званок невядомага мужчыны, які сказаў, што на вакзале знаходзіцца выбуховае прыстасаванне. Па словах міліцыянераў, якія знаходзіліся ў ачапленні, гэта ўжо трэцяе "мініраванне" вакзала за апошні месяц. А першае было 29 лістапада. Але ні разу бомбу не знайшлі. Не знайшлі і тэлефоннага тэрарыста.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Гэтым курацiны захацелася...

**Двое жыхароў вёскі Яруцічы Г. і І. залезлі ў хлеў свайго аднавяскоўца і ўкралі 11 курэй і пеўня.**

Аднак паласавацца курацінай ім не давялося, бо неўзабаве яны былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

### ...а таму зелля

У доме раней судзімага жыхара з вуліцы Пятніцкага Ш. работнікі міліцыі знайшлі 600 грамаў макавай саломкі. Узбуджана крымінальная справа.

### Рабаўнік затрыманы

**Днямі ў міліцыю звярнулася маладая дзяўчына, якая заявіла, што вечарам на Чырвонаармейскай вуліцы невядомы сарваў з яе залаты ланцужок.**

Па прыкметах рабаўнік хутка быў затрыманы.

### Фальшывa-манетчык з шостай школы

**Незвычайным спосабам вырашыў праверыць свае мастацкія здольнасці 11-класнік СШ №6 Р.**

На 5-даляравай купюры ён намаляваў лічбу пяцьдзесят і адправіў свайго сябра на гарадскі рынак яе абмяняць. Школьнік патрапіў на вопытных хлопцаў, якія выявілі падробку і самі даставілі яго ў міліцыю.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ВЕСТКІ З ДЗЯТЛАЎШЧЫНЫ

## Дапамог цэнтр занятасці

Сёлета Дзятлаўскі цэнтр занятасці насельніцтва накіраваў на вучобу 62 чалавекі, якія набылі спецыяльнасці бухгалтара, сакратара-рэферэнта, прадаўца, закройшчыка, будаўніка і іншыя. 50 чалавек ужо знайшлі работу. Ёсць надзея, што будуць уладкаваны і ўсе астатнія.

## Злодзеі пакваліліся на мапед

У жыхара Наваельні К. з падвала знік мапед. Аб крадзяжы ён адразу заявіў у аддзел міліцыі. Праз суткі міліцыянеры знайшлі злодзеяў. Імі аказаліся дзеці.

## На ласкавай зямлі Італіі

**У Італіі правядуць Каляды і Новы год многія выхаванцы Дзятлаўскай школы-інтэрната.**

Пасля канікул яны будуць там наведваць урокі, бо гасцяванне хлопчыкаў і дзяўчынак працягнецца аж да лютага. Восем дзяцей з выхавальніцай Надзеяй Васько паехалі ў гэту краіну крыху раней, а 39 дзяцей і чатыры педагогі накіраваліся туды 20 снежня.

Усе выхаванцы школы-інтэрната будуць жыць у італьянскіх сем'ях, некаторым пашчасціла пабываць там ужо некалькі разоў. І іх прымаюць, як жаданых гасцей.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ВЕСТКІ З МАСТОЎШЧЫНЫ

## Дапамагла адліга

**У мінулыя суботу і нядзелю снегапад цалкам паралізаваў рух аўтатранспарту ў Мастоўскім раёне.**

Быў спынены рух аўтобусаў на вёску і часткова прыпынены ў горадзе. У некаторыя далёкія населены пункты пасажыры не маглі даехаць нават у сераду, акрамя таго, у некаторыя раённыя крамы не быў завезены хлеб.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Пасварыліся Эйсмант з Мандзікам

**Нядаўна ў Мастоўскім раённым судзе разглядаўся іск грамадзянкі В. Эйсмант да рэдакцыі газеты "Мастоўскі веснік".**

У дванаццатым нумары гэтага незарэгістраванага выдання быў надрукаваны артыкул "Царыца калгаснага рынку", дзе ішла размова пра канфлікт паміж ветэрынарным работнікам В. Эйсмант і пенсіянерам Л. Мандзікам.

Грамадзянка Эйсмант палічыла, што артыкул ганьбіць яе гонар і годнасць, і звярнулася ў суд, каб газета надрукавала абвяржэнне, а таксама намагалася спагнаць з аўтара дваццаць мільёнаў рублёў у якасці кампенсацыі за маральны ўрон.

Па выніках першага пасяджэння суд прызнаў Язэпа Палубятку, рэдактара і аўтара артыкула, вінаватым і прысудзіў пяць мільёнаў рублёў на карысцьісціцы, але Гродзенскі абласны суд адмяніў гэтае рашэнне і вярнуў справу на перагляд.

На апошнім судовым пасяджэнні, якое доўжылася на працягу двух дзён, рэдактару ўдалося даказаць суду, што аўтар артыкула ні ў якім разе не ганьбіць гонар і годнасць В. Эйсмант, а хацеў давесці да ведама грамадскасці пра непатрэбнасць канфлікту ўвогуле, з намерам, каб болей падобнага не паўтаралася. Суд пагадзіўся з Я. Палубяткам і апраўдаў яго.

**Іван МІЛАСНІЦКІ**

## Кадравыя перастаноўкі

**Загадчыкам аддзела сацыяльнага забяспячэння Мастоўскага райвыканкама прызначаны Аляксандр Апалонік, які да гэтага займаў пасаду старшыні раённага Савета дэпутатаў.**

Цяпер месца старшыні вакантнае, і, як патлумачыў адзін супрацоўнік райвыканкама, што папрасіў не называць яго прозвішча, хутчэй за ўсё адбудзецца аб'яднанне пасад старшыні райсавета і старшыні райвыканкама ў адну. Верагодней за ўсё, што гэту пасаду займе цяперашні кіраўнік раённай "вертыкалі" Аляксандр Кісялёў.

**Антон МАЛЕЙ**

## Пахваліліся

**Начальнік упраўлення Мастоўскага райвыканкама Аляксандр Цярэшка прадставіў грамадскасці спіс грамадзян горада на першачарговае атрыманне жылля ў сувязі з хваробаю.**

Гэта, пераважна, інваліды першай і другой групы, якія сталі на ўлік дзесяць-пятнаццаць гадоў таму назад, а інвалід другой групы Эдуард Галабурда чакае кватэру ўжо дваццаць гадоў.

Тым часам за гэты тэрмін толькі самыя лянівыя кіраўнікі Мастоў не пабудавалі сабе катэджаў, а некаторыя пастараліся яшчэ і сваім дзецям.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

СПОРТ

# ЗАСЛУЖАНАЯ ПЕРАМОГА

**18 снежня закончыліся гульні чэмпіянату горада па міні-футболу. Чэмпіёнам 1998 года стала каманда "Марыя".**

"Марыя" упэўнена гуляла ў групавым турніры (з лікам 8:4 перамагла вопытнае "Дынама"), а ў паўфінале спыніла каманду "КПФ". У другой паўфінальнай гульні нечаканае паражэнне атрымаў "Тэлкон" ад "Брыгады". У выніку, каманда вядомай слонімскай фірмы змагалася толькі за трэцяе месца. Матч "Тэлкона" і "КПФ" атрымаўся відовішны, інтрыга захоўвалася да апошніх хвілін гульні. Прайграваючы 0:3, "Тэлкон" здолеў зраўняць лік — 4:4. Усё вырашылі пенальці, якія больш дакладна прабілі футбалісты "КПФ" і заваявалі трэцяе месца.

Фінальная гульня "Марыі" і "Брыгады" расчаравала многіх. Увесь першы тайм на пляцоўцы дамінiравалі футбалісты "Марыі", а вайскоўцы выглядалі стомленымі і маруднымі. Толькі ў другой палове гульні "Брыгада" здолела арганізаваць шэраг добрых атак і скараціць перавагу "Марыі" да трох мячоў — 2:5. "Марыя" (кіраўнік каманды — прадпрымальнік Мікалай Лажэчнікаў) заслужана заваявала першае месца на сёлетнім чэмпіянаце горада.

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**



*Каманда "Марыя" — чэмпіён 1998 года*

ЗАХАПЛЕННЕ

# ПАМЯЦЬ УВАСКРЭСЛАЙ ЗЯМЛІ

**У доме афіцэраў адкрылася пастаянна дзеючая выстава экспанатаў з уласнай калекцыі былога слонімскага журналіста і краязнаўца Міхася Рылко, якая атрымала назву "Памяць уваскрэслай зямлі".**

Экспазіцыя выставы налічвае больш як 200 цікавых і рэдкіх рэчаў, дакументаў, фотаздымкаў і карцін, сабраных гэтым чалавекам за апошнія трыццаць гадоў.

У першы дзень работы выставы адбылася прэзентацыя рукапіснай кнігі "Гаспадар майстэрні "Пад дэльфінам", якую падрыхтавала загадчыца гарадской бібліятэкі №2 Алена Лепка. Кніга расказвае пра жыццё і дзейнасць Міхася Рылко, яго працу па вывучэнню роднага краю і збору экспанатаў цяперашняй выставы.

Большую частку экспазіцыі складаюць дакументы і фотаздымкі, якія расказваюць пра час Вялікай Айчыннай вайны. Побач са зброяй змешчаны рэчы няхітрага салдацкага побыту гадоў вайны.

Асобным раздзелам прадстаўлены дакументы, фотаздымкі і мастацкія творы, якія адлюстроўваюць даваеннае і пасляваеннае жыццё Слонімшчыны.

Першымі наведвальнікамі выставы сталі афіцэры 11-й механізаванай брыгады і вучні школы №1. Экскурсаводам быў сам аўтар выставы — Міхась Рылко.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

СУДЕБНЫЙ ОЧЕРК

# ПАДЕНИЕ

Восемь лет назад семья Мурашовой-Хоменко переехала в деревню Окуниново. Агрофирма "Щара" выделила семье двухкомнатную квартиру. Предоставила работу. Но "зеленый змий" брал верх над сознанием и родительским долгом. Из-за пьянок у них не хватало времени на заботу о содержании, на воспитание детей.

— Какие хорошие и дружные ребята растут в семье — не по годам трудолюбивые, — восхищалась ребятами свидетель-соседка.

— Ко мне они ходили телевизор смотреть, — делилась своими впечатлениями свидетельница, заведующая фермой. — Бывало, придут на ферму веселые, радостные, матери помогают. Радоваться да гордиться такими детьми нужно.

Однако в семье Мурашовой-Хоменко думали о другом, жили ради желания погасить тягу и жажду к спиртному.

Из-за неоднократных прогулов потерял работу горе-хозяин, а затем и жена.

На суде не раз слышался вопрос: "За что вы пили? Откуда брали деньги на приобретение спиртного?".

— Когда работали, — отвечала Мурашова. — Получали зарплату.

— Как и чем кормили четверых детей?

— Готовили, что было...

Действительно, из-за систематического пьянства родители устранились от воспитания детей. В доме — грязь, беспорядок. Дети часто голодали, одеты были кое-как.

Да и чем они могли кормить детей, если не ведут никакого хозяйства? Участок земли у дома зарос бурьяном. На зиму не заготовили картофеля.

И не удивительно, что малые детки не знают, что такое чистое постельное белье. Не помнят вкуса каши с маслом. Не говоря о фруктах и овощах.

Один за другим в зале суда выступали свидетели. Выступали соседи и педагоги, представители районного отдела образования. Некоторые из них с болью в сердце, с навернувшимися слезами на глазах приводили поразительные факты черствости, бездушного отношения родителей к своим детям. И каждый из них говорил, что ни мать, ни отец не имеют права быть родителями. Другая бы женщина-мать на месте Раисы Мурашовой от упреков залилась бы горькими слезами. Лишь единожды она прослезилась, когда просила суд, чтобы при ней оставили девятиклассницу Лену. Как-никак дочери четырнадцать?

— Это для того, — отпарировала родная сестра ее сожителя Хоменко Алла Ивановна, — чтобы Лена готовила пищу и поддерживала хоть какой-то порядок в квартире.

После чего она поведала суду неприглядный случай. На осенние каникулы Алла Ивановна взяла двух детей Мурашовых к себе. Узнав об этом, мать приехала к ней. Она встала на колени и попросила отпустить сыновей на пару дней домой в Окуниново.

— Поверила матери, и отпустила с ней ребятишек, — с горечью закончила свой рассказ сестра Хоменко. — Раиса довезла ребят до Жирович, где до беспамятства напилась. После чего, лишь поздно вечером Ваня и Олег, голодные и промокшие (было это в начале ноября), с помощью чужих людей вернулись ко мне. Сколько я пережила за этот день — одному Богу известно?

— За всю свою жизнь не встречал таких родителей. Дети хорошие, старательные, но часто болеют и пропускают занятия. Не раз педагоги школы бывали в доме Мурашовой. И каждый раз поражались грязи и пьянству родителей. Более года в доме нет электричества. Отключили из-за высокой задолженности.

На суде приводился и такой факт. Младший сын Иван выходил на улицу к столбу, на котором горела электролампочка, и под уличным освещением готовил уроки.

И еще. Как-то отец собрал яблоки и повез сдавать в Слоним на винзавод. Дома не было ни матери, ни отца. В квартире было холодно. Дети в связи с этим спали в курятнике...

Суд постановил Р.Мурашову и А.Хоменко лишить родительских прав. Разумеется, государство позаботиться, чтобы несовершеннолетние Марта, Ваня, Олег и Лена жили в уюте, достатке, имели возможность учиться, улыбаться и радоваться жизни.

...Вышел из зала суда. В коридоре встретил девятиклассницу Лену Мурашову. На ее щеках горел румянец, а в глазах — тоска. Может быть, она еще совсем не осознала значение слов решения суда.

**Иван ЧУГУЕВ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
(017)210-87-17
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 23 снежня 1998г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз.
Заказ №3548

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# АДНОЙЧЫ ВЕЧАРАМ

Восеньскія прыцемкі згушчаліся хутка, нібы хто ў паветра дабавіў чарніла. Баба Кацярына, паставіўшы каля ложка свае мыліцы, затаілася ў запечку. Яе сужыцель Міхась, яшчэ не стары мужчына са стомленым прыгожым тварам, сядзеў ля пліты і задумліва пазіраў, як агеньчыкі полымя лізалі сухія яловыя дровы. Раз-пораз дровы трашчалі, і з пліты на падлогу жвавымі чырвонымі чарцянятамі выскоквалі вугольчыкі. Тады Міхась браў палена і хуценька ссоўваў вугольчыкі на бляху, што была прыбіта ля самай пліты. Нібы пакрыўдзіўшыся, яны адразу чарнелі, страчвалі сваю небяспечную прыгажосць.

У сенцах бразнула клямка, потым пачуліся крокі. Праз якую хвіліну парог пераступіў сусед і блізкі прыяцель Міхася, Кастусь Свідэрскі.

— Але ж і мароз нанач бярэцца, — паціраючы рукі, прамовіў ён. — Добра, што я ўчора яму з бульбай кастрыцай яшчэ больш прысыпаў, а то дабраўся б маразяка да клубняў. Калі гэтак будзе смаліць, то збрыдзее зіма. Каб хоць снегу не шкадавала, калі марозам цісне.

— Сядай, грэйся, — падсунуўся на зэдліку Міхась, — каля агню весялей.

— Святло ўключы, лайдачына! — раптам ні з таго ні з сяго злосна крыкнула з запечку Кацярына.— Сядзі тут ў цемнаце, як у магіле.

Міхась, ні слова не кажучы, падышоў да сцяны, шчоўкнуў уключальнікам.

— Што ты варыш на вячэру? — зноў падала голас Кацярына.

— Паставіў вады ў чыгунку. Потым усыплю макаронаў.

— А ты ў мяне спытаўся, ці хачу я гэтых макаронаў?! Пазаўчора былі макароны, сёння зноў. Я хачу бульбы са скваркамі!

— Зараз начышчу, пачакай, трохі з Кастусём пагавару, бо па гэту бульбу яшчэ трэба ісці ў склеп.

— Заўсёды так! Век у цябе нічога няма пад рукамі. Папрашу бульбы — значыць трэба ісці ў склеп. А каб папрасіла заціркі, то сказаў бы, што няма мукі. Лайдак. Голадам мяне заморыш, каб цябе падняло ды не спусціла, — лаялася Кацярына.

— Чыста замарыў ён цябе голадам, — усміхнуўшыся, прамовіў Кастусь. — У таліі будзеш не танчэйшая, чым гэта пліта.

— А табе што? Сваю Зінку глядзі, якая яна ў таліі. Высахла, як ражон стала. Затое ў цябе твар як вядро.

— Ідзі, Міхась, па бульбу, а я пайду дадому. Нешта паясніцу пачало ламаць. Мусіць, зноў радыкуліт агрызаецца. Няхай Зінка натрэ якой націркай.

— Пачакай, я вазьму кошык і пойдзем за адным скрыпам, — не стаў затрымліваць яго гаспадар.

Не паспелі выйсці на ганак, як Міхась выпусціў з рук кошык, прыхіліўся спіной да сцяны.

— Чаго ты? — не зразумеў сусед.

— Нешта млосна зрабілася і ў сэрца так кальнула, нібы шылам...

— Нездаровы ты, браток. Я ўжо даўно прыкмячаю, што ты пастаянна белы, як палатно. Ды і не дзіва, што ад такога жыцця пабялееш. Тут і пачарнець можна. Ну што, адпусціла?

— Палягчэла... Як надоўга, невядома толькі.

— Чаму ты не прыструніш Кацярыну, чаму ва ўсім патураеш ёй, як малому дзіцяці? А яна цябе за каравую ганучу не мае. Гэта ж трэба, так бэсціць чалавека за яго дабро. Ды хто б яе так даглядаў, каб не ты? Згніла б тут са сваёй балячай нагой.

— Што зробіш, Кастусь, такая мая доля. Калі я прыйшоў да яе ў прымы, была ж здаровая і спрытная ўдавіца. Ніхто не вінаваты, што нага пасля паламу хоць і зраслася, але стала балець так, што і прыступіць не можа.

— Вось іменна, ніхто не вінаваты. А яна робіць цябе вінаватым ва ўсім. Кідаецца, як нячыстая сіла. Можа, каб магла, то і біла б. Хоць раз паставіў бы на месца, каб ведала, як сябе паводзіць.

— Шкадую я яе.

— А яна цябе не. Наадварот, стараецца зрабіць яшчэ больш балюча. Хіба яна не бачыць, які ў цябе марны выгляд?

— Можа і не бачыць. У яе свая балячка. Калі на мяне пазіраць?

— Ці ты святы, ці ты дурны — не разумею, — паціснуў плячамі Кастусь.

— Якая там святасць... Абавязаны даглядаць яе, раз так выйшла. І нічога тут не зробіш.

— А дачка не абавязана? Жыве ў Мінску, мае трохпакаёвую кватэру на дваіх з мужам. Ні дзяцей, нікога. Магла б жа маццеру ўзяць хоць на зіму, каб ты трохі адпачыў.

— Магла б, ды не хоча. А я прасіць не буду, а то яшчэ падумае, што Кацярыну з хаты выганяю. Хай як хоча... У мяне сваё сумленне ёсць. А што там будзе потым — адзін Бог ведае.

— Ну, ідзі па бульбу, а то з голаду памрэ твая цаца, — сказаў Кастусь. — А калі ты, браток, кепска сябе адчуваеш, то я Зінку прышлю, яна вам вячэру зварыць.

— Дзякуй, але не трэба. Мне ўжо лепей. Заходзь часцей. Каб не ты, дык і словам не было б з кім перакінуцца. Радня мая далёка, а чужому нікому не патрэбен.

Міхась набраў кошык бульбы, замкнуў склеп і заспяшаўся ў хату, бо Кацярына будзе гневацца, што доўга затрымаўся.

Не паспеў паставіць кошык, як з запечку пачулася незадаволенае:

— Падай мне вады!

Набраў з вядра ў кубак і панёс ёй на ложак.

— Гэта цёплая! Колькі ўжо ў хаце стаіць. А я хачу халоднай. Схадзі да калодзежа і прынясі!

Пакуль Міхась пераліваў ваду з вядра ў чыгун, ставіў яго на пліту, каб запарыць кіпятком муку для свіней, Кацярына, абапіраючыся на мыліцы, дайшла да зэдліка і села на яго, падкінула ў пліту некалькі паленняў.

Узяўшы два вядры, бо вада ў хаце была патрэбная, Міхась выйшаў. Тоўстая, грузная Кацярына сядзела і чакала, калі ён вернецца, калі ў сенях бразне клямка. Потым, пачуўшы, як ад дзвярэй цягне холадам, здагадалася, што сені не зачынены.

— Спецыяльна пакінуў, каб лягчэй было прайсці з вёдрамі. Лайдак! Лішні раз павярнуцца лень, — бубніла сабе пад нос. Пасмы сівых валасоў павылазілі з-пад хусткі абапал галавы і ў водбліcках полымя твар яе быў злы, як у Бабы Ягі.

Чакала, каб хутчэй прыйшоў Міхась. Хацела накінуцца на яго за тое, што не спяшаецца чысціць бульбу на вячэру... А яго ўсё не было.

— Можа да Кастуся чаго павалокся? Неразлучныя сябры. Даўно бачыліся. Няхай толькі вернецца, то я ўжо яму ўсыплю.

Але Міхася не было. У чэрствае сэрца Кацярыны халоднай вужакай закралася трывога. Узяўшы мыліцы, яна пасунулася да акна, прытулілася лбом да шыбы. У святле маладога месяца ўбачыла, што на бялюткім снезе ляжыць Міхась. Адно вядро валяецца побач, а другое адкацілася далей. Ці ён набраў вады, ці не дайшоў да каладзежа?..

Не паспела Кацярына нічога сцяміць, як на двары пачуліся крокі. Кастусь з Зінай і малодшым сынам Юркам падбеглі да Міхася, паднялі яго на рукі і панеслі ў хату. Дзверы адчыніліся насцеж, і разам з халоднымі клубамі марозу суседзі ўнеслі ў пакой Міхася. У Кацярыны адняло мову, калі яго паклалі на ложак.

— А раптам памёр?! — з жахам падумала яна.

Твар Міхася быў белы, як мел, позірк застыў.

— Бяжы хутчэй па фельчарку! — крыкнула Зінка сыну.

— Няхай бяжыць, але што тая фельчарка паможа, — калі за Юркам зачыніліся дзверы, з жалем сказаў Кастусь. — Яму ўжо ніхто не паможа...

— І праўда, памёр! — загаласіла Зінка.

— Як памёр?! Навошта?! — Кацярына звар'яцелым позіркам абвяла ўсіх па парадку і, грукнуўшы мыліцы аб падлогу, на чацвярэньках папаўзла да ложка, на якім ляжаў Міхась. Яна не закрычала і не заплакала. Яна завыла так, як вые смяротна параненая ваўчыца. Ад гэтага працяжнага, з надрывам, гуку, па спіне ў суседзяў пабеглі мурашкі.

Кастусь, выціраючы слёзы, хацеў сказаць, каб змоўкла, не раздзірала душу, што трэба было раней шкадаваць, але безнадзейна махнуў рукой і ціха прамовіўшы:

— Бог табе суддзя, кабета, — выйшаў з хаты.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ФОТАІМГНЕННЕ

## Спяшаемся...



*Фота Мікалая СУПРУНА*

Расписание движения городского транспорта

## Рабочие дни

**МАРШРУТ №1**

**"Вокзал":** 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55.
**"Спутник":** 6.14, 7.08, 8.08, 9.08, 13.08, 14.08, 15.08, 16.08, 17.08, 18.08, 19.08.
**"Рязановщина":** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 13.25, 14.25, 15.25, 16.25, 17.25, 18.25, 19.25.
**"Площадь Ленина":** 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 13.40, 14.40, 15.40, 16.40, 17.40, 18.40, 19.40 (до АП № 3).

**МАРШРУТ №3**

**"МРЗ":** 5. 25 *(до вокзала по пятн., суб., воскр., понед.),* 6.10, 6.45, 7.15, 7.45, 8.15, 8.45, 9.15, 9.45, 10.50, 11.20, 11.50, 12.20, 12.50, 13.20, 13.50, 14.20, 14.50, 15.20, 15.50, 16.20, 16.50, 17.20, 17.50, 18.20, 18.50, 19.50, 20.50, 21.50.
**"Больница":** 6.45, 7.15, 7.45, 8.15, 8.45, 9.15, 10.20, 10.50, 11.20, 11.50, 12.20, 12.50, 13.20, 13.50, 14.20, 14.50, 15.20, 15.50, 16.20, 16.50, 17.20, 17.50, 18.20, 19.20, 20.20, 21.20.

**МАРШРУТ №5**

**"Подлесная":** 6.10, 6.40, 7.10, 7.40, 8.10, 8.40, 9.10, 9.40, 10.10, 11.30, 12.30, 13.27, 14.10, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10, 16.40, 17.10, 17.40, 18.10, 18.40, 19.10, 19.40, 21.20, 22.20, 23.20, 0.16 (до пл. Сапеги).
**"Спутник":** 6.00, 6.25, 6.55, 7.25, 7.55, 8.25, 8.55, 9.25, 10.45, 11.45, 12.45, 13.37 (до МРЗ),13.45,14.25, 14.55, 15.25, 15.55, 16.25, 16.55, 17.25, 17.55, 18.25, 18.55, 19.25, 20.35, 21.35, 22.35, 23.35.
**"СПТУ-189":** 6.10, 6.40, 7.10, 7.40, 8.10, 8.40, 9.10, 9.40, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10, 16.40, 17.10, 17.40, 18.10, 18.40, 19.10, 19.40, 20.50, 21.50, 22.50, 23.48.
**"Площадь Ленина":** 6.23, 6.53, 7.23, 7.53, 8.23, 8.53, 9.23, 9.53, 11.13, 12.13, 13.13, 13.53, 14.13, 14.53, 15.23, 15.53, 16.23, 16.53, 17.23, 17.53, 18.23, 18.53, 19.23, 21.03, 22.03, 23.03, 0.03.

**МАРШРУТ №6**

**"Спутник":** 6.10, 6.32, 6.55, 7.17, 7.40, 8.02, 8.25, 8.52, 9.10, 9.32, 9.55, 10.40, 11.18, 12.03, 12.48, 13.33, 14.18, 14.40, 15.03, 15.25, 15.48, 16.10, 16.33, 17.05, 17.10, 17.40, 18.03, 18.25, 18.48, 19.10, 20.12, 20.57, 21.42, 22.27, 23.15.
**"КПФ":** 6.33, 6.55, 7.18, 7.40, 8.03, 8.29, 8.48, 9.12, 9.33, 9.55, 14.40, 15.03, 15.25, 15.48, 16.43, 19.37, 23.50.
**"МРЗ":** 11.41, 12.25, 13.10, 13.55, 16.10, 16.53, 17.22, 17.40, 18.03, 18.25, 18.48, 19.10, 20.34, 21.19, 22.04, 22.50.

**МАРШРУТ №7**

**"Спутник":** 5.50, 6.03, 6.20, 6.43, 7.02, 7.25, 7.44, 8.05, 8.26, 8.47. 9.08, 9.29, 10.11, 11.33, 12.15, 12.57, 13.39, 14.21, 14.42, 15.24, 15.45, 16.06, 16.27, 16.48, 17.10, 17.30, 17.52, 18.12, 18.34 ,19.00, 19.30, 20.16, 20.58, 21.40, 22.22, 23.04, 23.43, 0.22.
**"Агропромтехника":** 6.03, 6.20, 6.43, 7.06, 7.25, 7.46, 8.07, 8.28, 8.49, 9.10, 9.31, 9.52, 10.34, 11.56, 12.38, 13.20, 14.02, 14.44, 15.05, 15.47, 16.08, 16.29,16.50, 17.11, 17.32, 17.53, 18.14, 18.35, 18.56, 19.20, 19.50, 20.39, 21.21, 22.03, 22.45, 23.27, 0.06, 0.43.

**МАРШРУТ №8**

**"Площадь Ленина":** 6.35, 7.05, 7.35, 8.05, 8.35, 9.05, 9.35, 11.15, 12.15, 13.15, 14.15, 15.15, 15.45, 16.15, 16.45, 17.15, 17.45, 18.15, 18.45, 19.15, 19.55, 21.00, 22.00, 22.55, 0.10.
**"Звездная":** 6.03, 6.33, 7.03, 7.33, 8.03, 8.33, 9.03, 9.33, 10.03, 11.43, 12.43, 13.43, 14.43, 15.43, 16.13, 16.43, 17.13, 17.43, 18.13, 18.43, 19.13, 19.43, 20.25, 21.25, 22.25, 23.25, 0.35 *(до ул. Чкалова)*.

**МАРШРУТ №10**

**"Площадь Ленина":** 6.55, 7.55, 8.55, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45, 14.45, 16.00, 17.00, 18.10,19.00, 20.30, 21.30, 22.30, 23.30.
**"Санаторно-лесная школа":** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.15, 12.15, 13.15, 14.15, 15.15, 16.30, 17.30, 18.33, 19.30, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00.

**МАРШРУТ №11**

**"Агропромтехника":** 7.17, 8.17, 9.17, 10.50, 11.50, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00 (до АРЗ).
**"Магазин "Дружба":** 6.44, 7.44, 8.44, 9.44, 11.17, 12.17, 13.27, 14.27, 15.27, 16.27, 17.27, 18.27, 19.27, 20.27.
**"Площадь Ленина":** 6.56, 7.56, 8.56, 10.29, 11.29, 12.29, 13.39, 14.39, 15.39, 16.39, 17.39, 18.39, 19.39, 20.39.

**МАРШРУТ №12**

**"Магазин "Дружба":** 6.55, 7.20, 8.05, 8.35, 9.15, 9.45, 10.25, 11.35, 12.15, 12.45, 13.25, 13.55, 14.35, 15.05, 15.45, 16.15, 17.10, 17.40, 18.20, 18.50, 19.30, 20.00, 20.40, 21.35, 22.45 *(до пл. Ленина)*.
**"Площадь Ленина":** 7.07, 7.32, 8.17, 8.47,9.27,10.37, 11.17, 11.47, 12.27, 12.57, 13.37, 14.07, 14.47, 15.17, 15.57, 16.27, 17.22, 17.52, 18.32, 19.02, 19.42, 20.12, 21.47.
**"Больница":** 7.30, 8.00, 8.40, 9.10, 9.50, 11.00, 11.40, 12.10, 12.50, 13.20, 14.00, 14.30, 15.10, 15.40, 17.07, 17.45, 18.15, 18.55, 19.25, 20.05, 20.35, 22.10.
**"Универмаг":** 6.40, 7.05, 7.53, 8.23, 9.03, 9.33, 10.13, 11.23, 12.03, 12.33, 13.13, 13.43, 14.23, 14.53, 15.33, 16.03, 16.58, 17.28, 18.08, 18.38, 19.18, 19.48, 20.28, 21.23, 22.33.

**МАРШРУТ №13 (такси)**

**"Агропромтехника":** 7.15, 8.35, 9.55, 11.15, 13.15, 14.35, 15.55, 17.15.
**"Больница":** 7.52, 9.12, 10.32, 12.32, 13.52, 15.12, 16.32, 17.52.

## Расписание движения городского транспорта. Выходные дни

**МАРШРУТ №1**

**"Вокзал":** 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 10.55, 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55.
**"Рязановщина":** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.25, 12.25, 13.25, 14.25, 15.25, 16.25, 17.25, 18.25. 19.25.

**МАРШРУТ №3**

**"МРЗ":** 5.25 и 6.10 *(до вокзала)*, 6.45, 7.45, 8.45, 9.45, 11.20, 12.20, 13.20, 14.20, 15.20, 16.20, 17.20, 18.20, 19.50, 20.50, 21.50 *(до вокзала), 22.25 ( до АП № 3).*
**"Больница":** 7.15, 8.15, 9.15, 10.50, 11.50, 12.50, 13.50, 14.50, 15.50, 16.50, 17.50, 19.20, 20.20, 21.20.

**МАРШРУТ №5**

**"Подлесная":** 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 11.00, 12.00, 13.00, 14.10, 15.10, 16.10, 17.10, 18.10, 20.00, 20.50, 21.50.
**"СПТУ-189":** 6.10, 7.10, 8.10, 9.10, 11.30, 12.30, 13.30, 14.40, 15.40, 16.40, 17.40, 18.40, 19.40, 20.25, 21.20, 22.20.

**МАРШРУТ №6**

**"Спутник":** 8.10, 8.45, 9.18, 9.50, 10.25, 11.45, 12.25, 13.00, 14.15, 14.45, 15.15, 15.45, 16.15, 16.45, 17.15, 18.15, 18.45, 19.15.
**"МРЗ":** 8.29, 9.02, 9.35, 10.08, 10.42, 12.10, 12.45, 13.30, 14.30, 15.03, 15.30, 16.03, 16.30, 17.03, 17.30, 18.30, 19.03, 19.37.

**МАРШРУТ №7**

**"Спутник":** 5.50, 6.20, 7.02, 7.44, 8.26, 9.08, 10.30, 11.12, 11.54, 12.39, 13.18, 14.00, 14.42, 15.27, 16.10, 16.55, 17.39, 18.39, 19.47, 20.27, 21.09, 21.46, 22.22.
**"Агропромтехника":** 6.03, 6.43, 7.25, 8.07, 8.49, 9.31, 10.53, 11.35, 12.17, 12.59, 13.41, 14.23, 15.05, 15.50, 16.35, 17.18, 18.10, 18.59, 20.08, 20.50, 21.30, 22.05, 22.45.

**МАРШРУТ №8**

**"Площадь Ленина":** 7.05, 8.05, 9.05, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45, 14.45, 15.45, 16.50, 17.45, 19.25. 20.25, 21.25, 22.35.
**"Звездная":** 6.33, 7.33, 8.33, 9.40, 11.13, 12.13, 13.13, 14.13, 15.13, 16.13, 17.13, 18.13, 19.53, 20.53, 22.05, 23.00.

**МАРШРУТ №10**

**"Площадь Ленина":** 6.55, 7.55, 8.55, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.30, 21.30, 22.30.
**"Санаторно-лесная школа":** 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 11.30, 12.30, 13.30, 14.30, 15.30, 16.30, 17.30, 18.30, 19.30, 21.00, 22.00, 23.00.

**МАРШРУТ №11**
(только по субботам)

**"Магазин "Дружба":** 6.44, 7.44, 8.44, 9.44, 11.17, 12.17, 13.27, 14.27, 15.27, 16.27, 17.27, 18.27, 19.27, 20.27.
**"Агропромтехника":** 7.17, 8.17, 9.17, 10.50, 11.50, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00 *(до АРЗ).*

**МАРШРУТ №12**

**"Магазин "Дружба":** 6.55, 8.05, 9.15, 10.25, 12.15, 13.25, 14.35, 15.45, 17.10, 18.20, 19.30, 20.40, 21.35, 22.45.
**"Больница":** 7.30, 8.40, 9.50, 11.40, 12.50, 14.00, 16.35, 17.45, 18.55, 20.05, 22.10.

**ТАКСИ "пл. Ленина — Больница"**

**"Площадь Ленина":** 9.35, 10.18, 11.18, 12.18, 13.18, 14.18.
**"Больница":** 10.40, 11.40, 12.40, 13.40, 14.40.
**"Звездная":** 9.55.
**"МРЗ":** 9. 20.

**ТАКСИ "Подлесная — М-н "Дружба"**

**"Подлесная":** 9.15, 10.15, 11.15, 12.15, 13.15.
**"Универмаг":** 8.25, 9.30, 10.30, 11.30, 12.30, 13.30.
**"Магазин "Дружба":** 8.45, 9.45, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45.
**"Площадь Ленина":** 9.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00.

**МАРШРУТ №13 (такси)**

**"Агропромтехника":** 7.15, 8.35, 9.55, 11.15, 13.15, 14.35, 15.55, 17.15.
**"Больница":** 7.52, 9.12, 10.32, 12.32, 13.52, 15.12, 16.32, 17.52.



## АНЕКДОТЫ

☺ - Наша рота напоминает мне сумасшедший дом, - сказал один рядовой после первого дня в армии.

- Не совсем так, - не согласился другой, - в сумасшедшем доме начальники - нормальные люди.

☺ В пункте приема в армию офицер по определению специальности беседовал с призывником.

- Мы хотели бы определить вас туда, где вы более всего подходите. Какая ваша гражданская специальность?

- Я был сборщиком налогов.

- Отлично! Мы сделаем из вас сигналиста. Будете играть сигнал «Подъем» по утрам. Вы уже привыкли к тому, что люди ненавидят вас.

☺ Сын предлагает матери отнести письмо и бросить в почтовый ящик.

- Ты что, сынок? На улице дождь, ветер. Хорошая хозяйка даже собаку не выпустит из дому в такую погоду. Пусть отец сходит.

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Кудаш Вікторыя
Сяледчык Юля
Майсак Ганна
Герасімчык Уладзіслава
Шэўчык Яўген
Яўстрат Максім
Заікін Аляксей
Сядляр Максім
Сухапар Валерыя
Гундар Дзмітрый
Харытановіч Аляксандра
Рыбак Кацярына
Панчанка Уладзіслаў



**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

†

**Бажко** Уладзімір Фёдаравіч 1912 г.н.
**Матвяеня** Яфімія Якаўлеўна 1904 г.н.
**Фрыдман** Анатоль Рафаілавіч 1934 г.н.
**Хомчык** Лідзія Іванаўна 1925 г.н.
**Ададурава** Лілія Мікалаеўна 1949 г.н.
**Бандаровіч** Мікіта Мікітавіч 1925 г.н.
**Салавей** Мікалай Сямёнавіч 1935 г.н.
**Бажко** Лявон Аляксандравіч 1953 г.н.
**Свярэпік** Андрэй Аляксеевіч 1997 г.н.
**Карпіў** Уладзімір Яўгенавіч 1962 г.н.
**Кіхалевіч** Іван Іванавіч 1920 г.н.
**Баленка** Аркадзь Канстанцінавіч 1939 г.н.
**Брылевіч** Ніна Уладзіміраўна 1944 г.н.
**Аніська** Іван Сцяпанавіч 1945 г.н.
**Зайко** Надзея Васільеўна 1926 г.н.
**Ануфровіч** Валянціна Антонаўна 1928 г.н.
**Маркевіч** Станіслаў Васільевіч 1951 г.н.
**Кудрыцкі** Канстанцін Іванавіч 1932 г.н.
**Камышава** Людміла Уладзіміраўна 1952 г.н.
**Шурко** Віктар Уладзіміравіч 1953 г.н.

†

Высказываем глубокие соболезнования семье **Маркевича** Станислава Васильевича в связи с его смертью.

Друзья и близкие покойного

†

Калектыў рэдакцыі "Газеты Слонімскай" глыбока смуткуе з прычыны смерці дырэктара Слонімскай узбуйненай друкарні Уладзіслава Пятровіча **Філіпава** і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ". КОНКУРС ЗАВЯРШЫЎСЯ




Я і сама магу пачытаць...
*Фота даслала Ірына АБУХОВІЧ*




Раніца пачынаецца з зарадкі
*Фота даслала Святлана ЖУК*




...І ў садзік разам пойдзем
*Фота даслала Святлана СЯЛЕДЧЫК*




Матуля, чаму ў мяне толькі тры колы?
*Фота даслала Людміла АСТАПЧЫК*



***Пачынаючы з ліпеня, на старонках "ГС" друкаваліся здымкі дзяцей, якія нашы чытачы дасылалі на конкурс "У аб'ектыве — дзеці". За пяць месяцаў рэдакцыя атрымала шмат фотаздымкаў. Лепшыя з іх былі апублікаваны. Праўда, некаторыя фотакарткі аказаліся не вельмі якаснымі, не былі таксама ўказаны імёны аўтараў здымкаў, неразборліва напісаны іх адрасы і прозвішчы. Таму іх рэдакцыя не публікавала. Тым не менш, конкурс адбыўся. І як мы абяцалі, у канцы снежня будуць падводзіцца яго вынікі, а пераможцы атрымаюць прызы ад слонімскіх фірм "Кодак", "Тэлкон", "CIS".***

Падвядзенне вынікаў конкурсу "У аб'ектыве — дзеці" адбудзецца ў памяшканні Слонімскага драмтэатра ***(вул. Чырвонаармейская, 25) 26 снежня ў 13 гадзін.*** Запрашаем усіх аўтараў, чые здымкі былі надрукаваны ў "Газеце Слонімскай", на гэтую ўрачыстасць. А таксама вашых дзяцей і ўнукаў, для якіх за кошт рэдакцыі будзе паказаны спектакль "Крыштальная сняжынка". А каму ў той дзень не пашанцуе, адчайвацца не трэба. Бо ў новым годзе наша газета паранейшаму будзе праводзіць новыя конкурсы з прызамі і грашовымі прэміямі. І ўсё яшчэ наперадзе.

***Да сустрэчы!***

